

# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №17 (122)
КАСТРЫЧНІК 2020 ГОДА

СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД

## СУД НАД УЧИТЕЛЬНИЦЕЙ

**Учительницу из агрогородка Октябрьская под Витебском Татьяну Вишневскую два раза судили за мирные демонстрации в областном центре. Педагог провела сутки в ИВС. На воскресном марше протеста 11 октября в Витебске Татьяна была с 10-летней дочерью Ксенией. Теперь ребенком заинтересовалась ИДН, в дом приходят различные проверяющие, семье грозят, что ее поставят в СОП.**

Татьяна Вишневская — учитель русского языка и литературы в СШ агрогородка Октябрьская под Витебском. Ее дочь Ксения учится в этой же школе.

Педагога два раза забирали в РОВД прямо из школы. Первый раз — за участие в марше протеста в Витебске 6 сентября (тогда между милицией и демонстрантами произошло несколько жестких стычек, самая серьезная — на улице «Правды»). Второй — за шествие в колонне протестующих 11 октября.

— Прокуратура подала запрос в школу, чтобы руководство отчиталось, есть ли у нас учителя, родители и дети, которые ходят на митинги. Видимо, обо мне подали такие сведения. И 23 сентября, в день инаугурации Лукашенко, меня из кабинета директора забрали в РОВД — якобы для беседы. Но на самом деле составили протокол — за нарушение части 1 статьи 23.34 КоАП, участие в акции, — рассказывает Татьяна Вишневская.

Позже педагог в суде получила штраф в 10 базовых (270 рублей).

Во второй раз Татьяну привезли с уроков в милицию 12 октября.

— Тогда составили протокол за мирную акцию, которая прошла накануне, 11 октября, — и на сутки до суда отправили в ИВС. Суд прошел по скайпу там же. В этот раз уже судили по части 3 статьи 23.34 КоАП — то есть за повторное нарушение порядка проведения массовых мероприятий. Дали штраф в 30 базовых величин (810 рублей). Я собираюсь обжаловать это решение в областном суде.

11 октября Татьяна Вишневская была на акции с дочерью — 10-летней Ксенией.

— Это потому что я тогда не могла оставить ее одну дома, — объясняет мать. — Мы гуляли по городу, это была мирная демонстрация. Ребенок должен понимать, что на мирные акции ходят не какие-то там «страшные люди», какими их пытаются показать по телевизору, а нормальные, адекватные белорусы, которые мирно высказывают свое мнение о том, что происходит в стране. Мы с дочерью не хотели на этом марше привлекать к себе внимание. Но так получилось, что люди пропустили ребенка вперед — и она оказалась в самом начале колонны.

Учитель говорит, что у ее Ксении — примерное поведение в школе, девочка участвует в разных конкурсах, заняла третье место на олимпиаде по белорусскому языку в районе.

— Однако нашу семью, похоже, хотят поставить в СОП, идет социальное расследование. Представитель ИДН и педагог-психолог приходили к нам домой, дочь тогда болела, была дома с папой, я была в ИВС. Их интересовало, что Ксюша делала на марше.

Сейчас, по словам Татьяны, семью посещают сотрудники разных служб — смотрят, в каких условиях живет ребенок.

— К нам домой уже приезжали сотрудники МЧС и газовой службы. На 19 октября нас с мужем приглашали на заседание совета профилактики в школе. Там должны были рассмотреть вопросы «по профилактике безнадзорности и правонарушений несовершеннолетних». Однако заседание не состоялось: директор заболела, — говорит Татьяна.

Как развернутся события дальше, Татьяна не знает:

— То заявляют, что, мол, ничего страшного: ну побудете несколько месяцев в СОП. То говорят, что у них нет оснований для постановки семьи в СОП. Но насколько им можно верить, я не знаю. Знаю только, что подобного давления — поставят семью в СОП или вообще изымут детей, или нет — сейчас боятся очень многие люди, которые ходили на мирные акции протеста. На работе меня тоже вызывали к начальству и пытались давить: «Как это так, вы — учитель и ходите на митинги?». Но учитель, как и любой гражданин страны, имеет право на выражение своей позиции. Я в этом уверена.

**TUT.BY**



## СПРАВА СЯБРОЎ-ПЕНСІЯНЕРАЎ РАЗВАЛІЛАСЯ

**20 кастрычніка ў судзе Першамайскага раёну Віцебску суддзя Міхаіл Юрчанка, вывучыўшы матэрыялы адміністрацыйных справаў сяброў-пенсіянераў Анатоля Мацьвеева і Аляксандра Нікіценкі, пастанавіў вярнуць матэрыялы ў РАУС для выпраўлення дапушчаных недахопаў.**

11 кастрычніка сябры-дзядулі былі затрыманыя і абвінавачаныя ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсці (ч.1, арт. 23 34 КаАП). Анатолю Мацьвееву 69 гадоў, ягонаму сябру Аляксандру Нікіценку – 79.

Падтрымаць у судзе прынцыповых і вельмі каларытных дзядуляў прыйшло каля паўсотні віцяблян. Дзяўчаты дарылі абвінавачаным пенсіянерам кветкі і выказалі словы падтрымкі.

Згодна з пратаколам, складзеным лейтэнантам Мікітам Лабацкім, Анатоль Мацьвееў 11 кастрычніка ўзяў удзел у несанкцыянаваным шэсці ад дому №15 на праспекце Перамогі да дому №18 на праспекце Будаўнікоў. Але ж, як пераконваў суд Мацьвееў, каля дому №15 калона не рухалася, а дому №18 наагул не існуе ў прыродзе. Мацьвееў налічыў у пратаколе 5 памылак.

У нейкі момант судовага працэсу Анатоль Мацьвееў пакінуў судовую залу. Разам з ім выйшлі і некалькі слухачоў.

«Калі ў пратаколе пазначаны дом, якога няма ў горадзе, як можна разглядаць справу?.. Кажуць, што мы ішлі цэлую гадзіну, але ж мы гадзіну ніяк не маглі хадзіць, бо Нікіценка кульгае і не можа так доўга рухацца. Калона туды наагул не заходзіла! Калі з нашага боку было парушэнне грамадскага парадку – дык складзіце пратакол на месцы. Ёсць сведкі, апытайце іх», – абураўся Мацьвееў, выказваючы сваё меркаванне прыхільнікам, якія не здолелі патрапіць у малую судовую залю і тоўпіліся ў калідоры.

Пасля паўгадзіннага разгляду справы і зробленага перапынку суддзя Міхаіл Юрчанка ўгледзеў у пададзеных матэрыялах шэраг недахопаў, якія перашкаджаюць суду прыняць рашэнне, і адправіў справу на дапрацоўку. Аналагічная пастанова была вынесеная і ў дачыненні да адміністрацыйнай справы Аляксандра Нікіценкі.

«Былі б усе такія, як гэтыя дзядулі, – і працы для адвакатаў не было б. У справе існуюць істотныя недапрацоўкі. У пратаколах маюцца скажэнні фактаў. РАУСы па-ранейшаму неахайна ставяцца да складання пратаколаў і астатніх матэрыялаў справы. Менавіта пад ціскам Анатоля Мацьвеева, які ўсё расклаў па паліцах, суду стала ясна, што справа падлягае вяртанню ў орган, які распачаў адміністрацыйны працэс», – выказала сваё меркаванне праваабаронца Ірына Траццякова.

**Ян Сведка**

## 405 РУБЛЁЎ ШТРАФУ ЗА МАЛЮНКІ

**Самы працяглы разгляд адміністрацыйнай справы паводле артыкулу 23.34 завяршыўся ў Віцебску. Вынік – 15 базавых.**

26 кастрычніка суд Віцебскага раёна прызнаў даказаным віну Марыі Волкавай у правядзенні несанкцыянаванага пікетавання 26 верасня ў вёсцы Лучынаўка ў перыяд з 2 да 4 гадзін ночы. Для гэтага суддзі Міхаілу Зубені спатрэбілася тры судовыя паседжанні. Супраць Марыі Волкавай і Андрэя Кулакова было вылучана абвінавачанне паводле ч. 1 арт. 23.34 КаАП. Справа ў адносінах да Кулакова была спынена.

Суд пачаўся 19 кастрычніка, але па хадайніцтве Волкавай і Кулакова быў перанесены. Абвінавачаныя ў адміністрацыйным правапарушэнні запатрабавалі, каб у суд паступілі матэрыялы з відэарэгістратараў супрацоўнікаў ДАІ і іх службовага аўтамабіля. 23 кастрычніка праглядзець усе файлы не атрымалася, і суд перанеслі на 26 кастрычніка.

Паводле пратакола, 26 верасня Андрэй Кулакоў і Марыя Волкава пры дапамозе балончыкаў нанеслі надпісы і сімволіку на сцены кафэ "Сава" і шынамантажа ў вёсцы Лучынаўка Віцебскага раёна. Сваімі дзеяннямі яны нібыта парушылі заканадаўства аб правядзенні масавых мерапрыемстваў, прынялі ўдзел у пікетаванні.

Вінаватымі сябе Волкава і Кулакоў не прызналі. Як патлумачыла Марыя, у Лучынаўцы яна знаходзілася з трох гадзін і да часу затрымання. Пасля працы, якая скончылася а першай гадзіне, разам з Кулаковым прыехала ў Лучынаўку на таксі. Яны сябруюць з уладальнікам кафэ "Сава" Яўгенам Кавалеўскім і прыехалі, каб дапамагчы падрыхтавацца да прыёму гасцей, якіх чакалі на суботні адпачынак..

Са словаў Волкавай, Кавалеўскі, якому дашнікі а 2 гадзіне паказалі на сцяне шынамантажа малюнкі( сэрца, кулак, знак перамогі, мужчына са сцягам), прапанаваў паглядзець і насценны жывапіс. Нечакана пад'ехала машына, з яе выбеглі двое невядомых і кінуліся да іх. Волкава перапалохалася і пабегла. Тое, што гэта супрацоўнікі ДАІ, яна даведалася толькі пасля затрымання.

У сваім тлумачэнні Кулакоў свае ўцёкі патлумачыў тым, што ў горадзе за ім сочаць невядомыя міліцыянеры, а супрацоўнікі ДАІ яму пагражалі. З гэтай нагоды ім пададзены заявы ў РАУС і сьледчы камітэт.

У якасці сведкаў былі апытаныя кіроўца і інспектар ДПС ДАІ Віцебскага райвыканама, якія затрымлівалі Волкаву і Кулакова. У тую ноч яны патрулявалі дарогу "Віцебск – Лёзна.

З іх словаў, у першы раз невядомыя, якія наносілі малюнкі, збеглі. Гаспадар кафэ за нанесеныя малюнкі ні на каго не наракаў.

Каля чатырох гадзін дашнікі пад'ехалі яшчэ раз. Пабачылі тую самую дзяўчыну, якая ў першы раз наносіла надпісы, выбеглі з машыны і пасля непрацяглага пераследу *(працяг на стар. 2)*

СУДОВЫ ПЕРАСЛЕД

*(пачатак на стар. 1)*

затрымалі спачатку хлопца. А потым і дзяўчыну.

Падаў сваю версію агучаных падзей і Яўген Кавалеўскі, гаспадар кафэ "Сава". З яго слоў, малюнкі з'явіліся яшчэ да прыезду Кулакова і Волкавай. Побач са сцяной ён знайшоў скрыню з балончыкамі для малявання і паставіў іх у машыну. Дарэчы ён уласнаручна намаляваў чорнай фарбай верабейчыка, якога перад затрыманнем паказваў Кулакову і Волкавай.

Абаронца Волкавай і Кулакова пасля вывучэння відэаматэрыялаў заявіла, што суду не прадстаўлена праўдзівых доказаў здзяйснення Волкавай адміністрацыйнага правапарушэння, а сукупнасць доказаў, якія маюцца ў матэрыялах справы, не з'яўляюцца дастатковымі для вынясення пастановы аб адміністрацыйным спагнанні. Яна папрасіла адміністрацыйную справу ў адносінах Волкавай спыніць з-за недаказанасцю яе віны.

Суддзя Зубеня пагадзіўся з аргумэнтацыяй абароны ў той частцы, што расследаванне было праведзена павярхоўна і далёка не поўна. Даследаваўшы інфармацыю з электронных носьбітаў, суд разам з тым прыйшоў да высновы, што віна Волкавай знайшла сваё пацвярджэнне, і аштрафаваў Марыю на 15 базавых велічынь (405 рублёў).

З меркавання суддзі Зубені, удзел Кулакова ў нанясенні малюнкаў не знайшло свайго пацвярджэння. Ніякіх доказаў здзяйснення ім правапарушэння суду не прадстаўлена, таму справа ў адносінах да Кулакова падлягае спыненню з-за недаказанасцю ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння.

**Ян Сведка**

# ЯНУШКОЎСКУЮ І ШАБУНЮ АШТРАФАВАЛІ

**Паводле пратаколу, 4 кастрычніка журналістка-фрылансерка Алена Шабуня ўзяла ўдзел у несанкцыянаваным шэсці па Маскоўскім праспекце. Была заўважаная ў групе людзей, якія выказвалі свой пратэст супраць вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. Дапушчанае ёй адміністрацыйнае правапарушэнне кваліфікаванае паводле ч.1. арт. 23.34.**

З пратаколам Алена Шабуня не пагадзілася, але даць тлумачэнні не адмовілася. Заявіла, што з раніцы гуляла па горадзе, не рухалася ў групе людзей, але назірала за перасоўваннем калоны грамадзянаў. Загадзя не ведала, дзе калона будзе праходзіць.

«Я была каля калоны, перад калонай, пасля калоны. Мне было цікава, бо па прафесіі я журналістка, а вядома, што былых журналістаў, як і кадэбістаў, не бывае. Людзі выказвалі пратэст супраць хлусні, якая накрыла ўсю краіну», – патлумачыла Алена.

Алена Шабуня прад'явіла суду міжнароднае пасведчанне журналіста. Патлумачыла, чаму не апранала камізэльку з надпісам «Прэса»:

«Калі б нават камізэлька ў мяне і была з сабой, я яе не апранула б. Ведаю, што затрыманне журналістаў з апазнавальнымі знакамі ў Беларусі – звычайная справа. Журналістаў ізалююць, і яны не могуць займацца сваёй прафесійнай дзейнасцю», – сказала Шабуня.

Суддзя Міхаіл Юрчанка палічыў удзел Алены Шабуні ў шэсці даказаным і аштрафаваў жанчыну на 5 базавых велічыняў (135 рублёў).

30 жніўня ўрач-інтэрн Кацярына Бажанкова ўзяла ўдзел у мірным шэсці і была абвінавачаная паводле ч.1. арт.23. 34 КаАП. Кацярына не аспрэчвала свайго ўдзелу ў масавым мерапрыемстве і пагадзілася разгледзець сваю справу ў скарочаным варыянце – без вывучэння ўсіх матэрыялаў.

«Я ведала, што мерапрыемства несанкцыянаванае, але я не ведала, якім іншым чынам магла б выказаць сваё стаўленне да падзеяў у краіне», – сказала Кацярына. Суддзя Вераніка Барысава вынесла Кацярыне Бажанковай папярэджанне.

Валянціна Ермаковіча за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці 30 верасня і 6 кастрычніка суддзя Міхаіл Юрчанка аштрафаваў на 2 базавыя велічыні (54 рублі).

У судзе Віцебскага раёну за марш пенсіянераў 12 кастрычніка суддзя Міхаіл Зубеня аштрафаваў Алену Янушкоўскую на 45 базавых (1215 рублёў). Двое сутак да суду Янушкоўская правяла ў СІЗА.

Таксама суд Віцебскага раёну пакараў 15 кастрычніка штрафам у памеры 25 базавых велічынь Ангеліну Туравец (суддзя Зубеня). Дзяўчыну судзілі за ўдзел у шэсці 11 верасня.

Справу жорстка затрыманага 27 верасня каля «Еўраопту» на Маскоўскім праспекце віцябляніна Сяргея Козака скасаваў у гэты ж дзень суд Кастрычніцкага раёну. Суддзя Ілля Белавус палічыў, што мужчына не парушыў арт.23.4 КаАП (непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы), бо «законных патрабаванняў» з вуснаў міліцыянтаў, якія затрымлівалі Козака, не гучала.

**Якаў Дрозд**

COVID-19

# ПЕРЕПРОФИЛИРУЮТ МЕДУЧРЕЖДЕНИЯ

**На работу с больными COVID-19 в Витебске перепрофилированы областная инфекционная больница, городская больница скорой медицинской помощи, городская центральная больница и областной кожвендиспансер, а также для этого задействован нефрологический корпус областной клинической больницы. С понедельника недели могут задействовать 1-ю горбольницу.**

Всего по Витебской области под инфекционные уже перепрофилировано 1487 койко-мест, что составляет 20,5% от всего имеющихся в медучреждениях региона 7270 коек, об этом сегодня сообщил Минздрав.

В Полоцке пациентов с коронавирусной инфекцией принимает городская больница, а в Новополоцке — центральная городская больница (инфекционное отделение) и кожвенерологический диспансер. В Орше под это отвели больницу №3 и пульмонологическое отделение горбольницы имени Семашко.

Во всех районах Витебщины пациенты с инфекцией COVID-19 госпитализируются в инфекционные и терапевтические отделения, за исключением Сенно, Шумилино, Россон и Шарковщины.

На базе Городокской центральной районной больницы перепрофилировано в инфекционное отделение 70 коек, как сообщали «НВН», на 21 октября в этом районе было 149 активных случаев COVID-19.

Также Минздрав сообщает, что в случае необходимости со следующей недели пациенты с COVID-19 будут госпитализироваться в 1-ю городскую клиническую больницу Витебска.

**«Народныя навіны Віцебска»**

ЗВАРОТ

# ЗВАРОТ МЕДЫКАЎ ВІЦЕБСКУ

**Лекары з Віцебска запісалі адкрыты відэазварот да ўладаў і народа. У ім яны патрабуюць расказаць праўду пра COVID-19, прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў МУС, якія перавысілі свае паўнамоцтвы, і спыніць пераслед людзей па палітычных матывах.**

Віцебскія медыкі зрабілі відэазварот на рускай і беларускай мовах. У прыватнасці, яны кажуць:

«Нас сталі затрымліваць, пераследваць за нашы думкі, нашы перакананні, нашы погляды».

«І разам з намі пераследуюць нашых сяброў, нашых жон І мужоў, нашых бацькоў І нашых дзяцей, пераследуюць наш беларускі народ».

Жорсткія затрыманні,ператрусы ў кватэрах, судовыя пераследы, збіццё ў РАУС, СІЗА, ІЧУ. Усё гэта было, і ўсё гэта працягваецца на нашых вачах ".

«Ігнараванне Праблемы COVID-19, фальсіфікацыя статыстыкі, непрыняцце своечасова належных супрацьэпідэмічных захадаў. І як вынік - высокі ўзровень захворваннаў І смяротнасці ».

«Мы не згодныя, Каб сілавыя структуры здзекаваліся над мірнымі людзьмі, білі і забівалі».

«Мы патрабуем спыніць гвалт у дачыненні да ўсіх грамадзян Рэспублікі Беларусь».

«Мы патрабуем прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў, якія перавысілі свае паўнамоцтвы».

«Мы патрабуем неадкладнага вызвалення ўсіх медыцынскіх работнікаў і іншых грамадзян, затрыманых па палітычных матывах і падчас мірных акцый пратэсту».

«Мы - медыцынскія работнікі. І мы - з народам. Мы - і ёсць народ» - кажуць медыкі.

**Ян Сведка**

САЛІДАРНАСЦЬ

# НА УПЛАТУ ШТРАФА СОБРАЛИ

**Витебляне собрали деньги на уплату штрафа за акцию женщине, зарплата которой в два раза меньше этого штрафа.**

Жители Витебска собрали деньги на уплату штрафа для киоскера Натальи Перуновой, которую 21 октября суд оштрафовал на 648 рублей за участие в «несанкционированных уличных шествиях». Эта сумма почти в два раза больше, чем зарплата женщины.

Киоск «Витебскоблсоюзпечати» возле магазина «Витебские продукты» на пересечении Московского проспекта и улицы Чкалова, где работает Наталья Перунова, 22 и 23 октября, наверное, был самым популярным в городе. Витебляне сюда подходили, чтобы что-то купить, а заодно «скинуться» на штраф киоскеру. Каждый давал столько, сколько мог.

Информация о том, в каком именно киоске работает Наталья, появилась в местных телеграм-каналах.

— Сегодня еще до обеда необходимая сумма собралась. Подходили люди и вчера. Я уже даже со счета сбилась, сколько горожан захотели помочь мне. Наверное, за два дня не менее пятидесяти человек. Спасибо огромное всем, кто не остался равнодушным. Был момент, когда я даже плакала от такого внимания и солидарности, — рассказала TUT.BY Наталья Перунова.

Напомним, милиция обвинила Наталью в участии в несанкционированных митингах в Витебске 6 и 23 сентября. Сама она говорила суду, что 23 сентября ее не было среди протестующих. Но свидетель — сотрудник Октябрьского РОВД Виталий Пралич — доказывал, что женщина на оперативных видео и есть Наталья.

Судья Владимир Цариков решил, что на видео фигурирует одна и та же женщина. Он признал Наталью Перунову виновной в нарушении ст. 23.34 КоАП и оштрафовал ее на 24 базовые величины (648 рублей).

Зарплата киоскера в лучший месяц составляет 350 рублей.

**Tut.by**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

РАСІЯ

# МАСКВА РАЗУМЕЕ, ШТО ТРЭБА МЯНЯЦЬ ЛУКАШЭНКУ

**Галоўны рэдактар «Рэха Масквы», Аляксей Венедыктаў, якога лічаць чалавекам інфармаваным і набліжаным да Крамля, выказаўся аб сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з палітвязнямі, а таксама паразважаў аб няпростым становішчы, у якім апынуўся кіраўнік Беларусі.**




— Так, гэта быў будынак КДБ, палітвязняў прывезлі з розных СІЗА, — распавёў Венедыктаў у праграме «Будзем назіраць». — Ім не паведамлялі, куды іх вязуць. На нейкую сустрэчу. Ім не паведамлялі прозвішча Лукашэнкі, і для іх прыход туды Аляксандра Лукашэнкі было нечаканасцю. Уласна, у тым ліку на гэта быў, вядома, разлік.

Я яшчэ раз паўтару для тых, хто прапусціў, я лічыў і лічу, што Лукашэнка заціснуты паміж трыма сіламі. Які два яго ставяцца негатыўна. Гэта пратэст, гэта Масква і гэта Брусэль. ЕС. І паколькі ён бачыць у гэтым практычна адзіны фронт, нават выдатна разумеючы, што ёсць ўнутраныя супярэчнасці паміж Брусэлем і Масквой, паміж Масквой і пратэстам. Паміж пратэстам і Бруселем. Тым не менш ён разумее, што яму трэба адбівацца па крузе. Таму яго, на мой погляд, задача была выскачыць. Ведаеце, як змылак заціскаецца — мыла так уверх вылятае. Таму ён распачаў такі я б сказаў неардынарны крок.

Учора журналіст Сяргей Пархоменка казаў, што апошняе, што ён памятаў — сустрэча ў турме Мандэлы, які адседзеў 25 гадоў, і Пітэра Бота, кіраўніка. Яны там пілі гарбату і абмяркоўвалі, што будзе потым з Паўднёвай Афрыкай. Але я думаю, што задача Лукашэнка — раскалоць пратэст у першую чаргу. Аслабіць націск пратэсту. Таму што пратэст — гэта шырокая кааліцыя. Нават калі яна нефармальная. Там ёсць людзі, якія выходзяць з рознымі поглядамі, рознымі задачамі. Ён гэта добра разумее.

І ён спрабуе лідэраў пратэсту як бы супрацьпаставіць адных іншым. І плюс да гэтага Масква, якая разумее, што трэба мяняць Лукашэнку. Маскве трэба мяняць Лукашэнку на кагосьці больш цяпер зручнага і цывілізаванага, скажам так. Значыць трэба туды штосьці кінуць, а таксама паказаць Еўропе, што мы тут вам не капусту лапцем сёрбаем. Людзей выпусцілі двух, перавялі на хатні арышт. І яшчэ выпусцім і гэтак далей...

Гэта значыць на самай справе... Ва ўсякім разе, людзі, якія пераказваюць гэтую сустрэчу мне з розных штабоў, з розных сіл — яны кажуць, што Лукашэнка быў упэўнены ў сабе. Спакойны. Прыязны. Шмат жартаваў. Ён вырашаў задачу. Сваю. Не іх. Вырашыў ён яе? Не, не вырашыў. Таму што калі пайшлі каментары на наступны дзень, што гэта яго слабасць — ён завагаўся пад вуліцай. Яго прымусілі гэта зрабіць. І ён гэта кампенсаваў жорсткасцю на вуліцы, параўнальнай з жорсткасцю 9-11 жніўня. Ён вярнуўся да таго ўзроўню жорсткасці. Збіццём у першую чаргу, пагрозамі страляць баявымі патронамі. «Гуманістычна», як казаў яго намеснік міністра ўнутраных спраў.

Гэта значыць, Лукашэнка як бы кідаецца паміж во сваім вобразам рашучага, суровага, у сваім праве кіраўніка дзяржавы — і чалавекам, які разумее, што ён заціснуты. Ён жа разумее, ён жа ня дурны. Таму будзем, напэўна, на працягу нейкага часу бачыць яшчэ некаторыя яго руху і спробы з аднаго боку, паўтараю, дамовіцца з часткай кіраўнікоў пратэсту.

**«Новы Час»**

ПОГЛЯД

# АД МАРШАЎ ПРАТЭСТУ ДА СТРАЙКАЎ, АД СТРАЙКАЎ — ДА РЭАЛЬНЫХ ПЕРАМЕН

**Напярэдадні ўсебеларускага страйку пачуў ад адной замежнай карэспандэнткі: «Людзі мусяць бачыць нейкі вынік сваіх высілкаў, яны ня могуць хадзіць на маршы проста так бясконца». Ня толькі яна, многія (асабліва за мяжой) сумняваюцца ў плёне таго, што бачаць у відэасюжэтах зь Беларусі. Маўляў, хадзяць і хадзяць — а сэнс? А сэнс і плён — навідавоку.**

Плён маршаў пратэсту — гэта, безумоўна, маштабны страйк, які адбываецца ў Беларусі 26 кастрычніка 2020 году. Прынамсі ў XXI ст. нічога падобнага ў краіне не было. Хтосьці скажа, што для агульнанацыянальнага маштабу ўдзельнікаў мала. Але можна сьмела запярэчыць, што ва ўмовах праавога дэфолту і фактычнага тэрору з боку дзяржавы акцыі 26 кастрычніка — посьпех грамадзянскай супольнасьці.

Важны момант: упершыню ад пачатку пратэстаў за страйк 26 кастрычніка ёсьць адказная асоба (прынамсі, маральна) — Сьвятлана Ціханоўская. Якая перад тым падкрэсьлівала, што яна ня лідэр, а сымбаль пратэстаў. І праўда, на маршах пратэсту ў асноўным гучыць толькі адно імя — Лукашэнкі, і толькі ў адным кантэксьце: «Сыходзь!»

Я ўпэўнены, што без папярэдніх адзінаццаці маршаў у людзей не было б такой рашучасьці страйкаваць. Бо маршы паказваюць і рашучасьць, і салідарнасьць, і маштаб пратэстаў.

А крыху раней мы пабачылі, што ўпершыню за чвэрць стагодзьдзя ляяльныя да Лукашэнкі «бюджэтнікі» ў шэрагу рэгіёнаў адмаўляліся ехаць на праўладны мітынг. Усё таму, што людзі бачаць рашучасьць, і ўсё ад маршаў.

Маршы фактычна вымываюць падмурак піраміды ўлады, якую Лукашэнка разам з зацікаўленымі чыноўнікамі і бізнэсоўцамі выбудоўваў так доўга.

Цяпер відавочна, што людзей, якія хочуць пратэставаць, але не пратэстуюць, спыняе выключна боязь перад рэпрэсіўнай машынай альбо страх страціць даход. У кожным разе ключавое слова тут — «страх».

Выходзіць у асноўным «крэатыўная кляса», якая яшчэ нядаўна жыла ў сваёй паралельнай ад лукашэнкавай рэальнасьці, а залежныя ад дзяржавы (гэта значыць пэрсанальна ад Лукашэнкі) былі больш-менш задаволеныя

*(працяг на стар. 4)*

ЭЎРАЗВЯЗ

# МЫ АКАЖАМ «ЗНАЧНУЮ ЭКАНАМІЧНУЮ ПАДТРЫМКУ»

**ЕС працягвае падтрымліваць беларусаў у іх імкненні да новых, сумленных выбарах і дэмакратыі. Пра гэта 16 кастрычніка на слуханнях у Еўрапарламенце заявіў кіраўнік дэпартамента Усходняга суседства ў Еўракамісіі Лоўрэнс Мэрэд.**

Мэрэд сказаў: «Важна паказаць народу Беларусі, якія магчымасці існуюць у тым, што тычыцца супрацоўніцтва з ЕС пры пераходзе да дэмакратычнай Беларусі. І мы падтрымліваем такі пераход », паведамляе БелаПАН, перадае naviny.by.

Таксама Мэрэд удакладніў, што ў выпадку перамогі беларускага народу — і пераходу да дэмакратыі — у Беларусі «будзе магчымая значная эканамічная падтрымка» краіны, у тым ліку новае пагадненне, якое прадугледжвае доступ да фінансавання Міжнароднага валютнага фонду і фінансавай дапамогі з боку ЕС. «Мы ўсе гатовы прапанаваць такую падтрымку <...> Наш абсалютны прыярытэт — падтрымліваць дэмакратызацыю Беларусі».

Мэрэд запэўніў, што цяпер у ЕС абмяркоўваецца, як зрабіць так, каб ужо існуючая дапамога была накіравана на падтрымку грамадзянскай супольнасці, моладзі, незалежных СМІ, а не дзяржаўных структур.

«Мы аказваем дапамогу ахвярам рэпрэсій. Сёння раніцай мы пачулі зусім жахлівыя гісторыі катаванняў і гвалту ў Беларусі. Мы аказваем медыцынскую, псіхалагічную, юрыдычную дапамогу пацярпелым ад гвалту. Мы вельмі ўключаны ў дыялог, каб зразумець, як лепш арганізоўваць такую дапамогу, улічваючы складаныя абставіны ў краіне <...> Я думаю, што мы ніколі не бачылі больш яркага прыкладу таго, як важна мець магчымасць чуць незалежныя галасы і бачыць фота і відэа таго, што адбываецца, таго гвалту, якое закранула тысячы людзей», - сказаў на заканчэнне Мэрэд .

**kyky.org**

ФІЯСКА

# ПРИ СИДОРСКОМ ТАКОГО НЕ БЫЛО

**То, что мы видим сегодня, невозможно было представить еще десять лет назад.**

Можно сколь угодно смеяться над героем короткометражки «Гуд бай, Бацька!», ушедшим в запой (от прилива патриотизма) после участия во Всебелорусском народном собрании. Но и в 2001-м, и в 2006-м, и в 2010-м вряд ли была возможна ситуация, которую мы наблюдаем сейчас.

Только представьте: афиши, красно-зеленые полотнища по всему городу, анонсы на ТВ — и тут в решающий момент Александр Лукашенко и Сергей Сидорский, перебивая друг друга, начинают путанно объяснять, почему делегатам собрания не нужно ехать на арендованных автобусах в столицу.

Роман Головченко может и дальше рассказывать о лавинах из желающих пройти маршем по Минску в поддержку действующей власти. Но факт остается фактом: в 2006-м власти не напрягаясь собрали бы и 5000 тысяч делегатов вместо двух с половиной. Просто потому, что не было недостатка в желающих.

Есть еще один характерный момент. За четверть века участников провластных акций приучили к абсолютной несамостоятельности. Попробуйте вспомнить хотя бы один действительно стихийный многотысячный митинг в поддержку Лукашенко, на который бы заблаговременно не отбирали людей и не свозили их к централизованно к месту сбора.

Не исключено, что сейчас для властей звенит важный и тревожный звонок: многие больше не хотят быть массовкой, даже если им пообещать деньги и беляши с водкой без наценки. Возможно, эта часть белорусов так и не выйдет в поддержку перемен, о чем нам говорят записи из госучреждений, но и на митинги «за стабильность» многие из них уже не ходоки.

**Кирилл Иванов**
**"Салідарнасць"**

ПОГЛЯД

(пачатак на стар. №3)

сваімі даходамі.

Сёньня маршамі крэатыўная кляса дэманструе сабе і ўсім астатнім грамадзянам, што «кароль» практычна голы. Лукашэнка ня можа ўжо трэці месяц узяць сытуацыю пад кантроль. Разбураецца міт пра ўсёмагутнага волата-чараўніка Лукашэнку, які і дождж можа даць у засуху, і прыдуманых ім саміх ворагаў перамагчы.

26 кастрычніка 2020 году да прахадных некаторых прадпрыемстваў прыгналі аўтазакі, а дзе-нідзе амапаўцы затрымалі рабочых. Беспрэцэдэнтна для часоў кіраваньня Лукашэнкі. Раней падчас страйкаў рэпрэсавалі толькі актывістаў. Цяпер ёсьць сьведчаньні пра пабітых у аўтазаках гарадзенскіх рабочых «Азоту». Гэта своеасаблівы момант ісьціны, калі разбурыўся галоўны міт пра Лукашэнку як «абаронцу простага народу».

І гэта ўсё — ад маршаў.

Маршы дэманструюць «простаму народу», што Лукашэнка не такі ўжо і ўсёмагутны. Тое самае бачаць і чыноўнікі, у тым ліку «сілавікі».

У Беларусі працягваецца пазыцыйная вайна. Своеасаблівая раўнавага магчымасьцяў. «Сілавікі» ня могуць задушыць пратэсты, пратэстоўцам не хапае вагі, каб цалкам пазбавіць гвалт сэнсу.

Слова «вайна» я не лічу перабольшаньнем. Адно што ў Беларусі яна не халодная, не гарачая, а «цёплая». Страляюць гумовымі кулямі, якія не забіваюць, але калечаць. Зрэшты, часам і забіваюць.

Такое адчуваньне, што Лукашэнка наўмысна падаграе сытуацыю, бо рэпрэсіі толькі больш злуюць людзей. А значыць, будуць наступныя маршы.

Глябальна працяг пратэстаў азначае, што Лукашэнку ніхто ў сьвеце ня дасьць крэдыту, сюды ня пойдуць інвэстыцыі. «Навошта такі кіраўнік?», — падумаюць на розных узроўнях піраміды ўлады. Ідэя неабходнасьці новага кіраўніка краіны пашырыцца ў галовах. Лягічна падумаць пра асобу, якую лічаць пераможцай на выбарах.

Тое, што Сьвятлана Ціханоўская ўзяла на сябе маральную адказнасьць, заклікаўшы да агульнанацыянальнага страйку, сьведчыць, што яна фактычна пачала сваю другую выбарчую кампанію. Гэтым разам не як намесьніца мужа Сяргея Ціханоўскага, якога Лукашэнка кінуў за краты, а як самастойны палітык.

Магчыма, неўзабаве мы пабачым новыя лёзунгі пратэсту, якія набудзе ня толькі мэту «супраць»: «Лукашэнка, сыходзь!», але і лёзунг «за»: «Сьвятлана, прыходзь!»

**Севярын Квяткоўскі**

ДЕЖАВЮ

# КАРДИОЛОГ АЛЕКСАНДР МРОЧЕК — ПРО СТРАНУ

**Известный белорусский кардиолог, заслуженный деятель науки, академик Национальной академии наук Беларуси, доктор медицинских наук, профессор, бывший директор РНПЦ «Кардиология» Александр Мрочек изложил мнение, которое назвал «Дежавю». Приводим его полностью.**



— Что происходит? Наверное, один из часто задаваемых вопросов в последнее время. Такое впечатление, что мы уже встречались с происходящим в своей жизни.

Изучая во время учебы в мединституте историю партии коммунистов, всевозможные марксизмы и материализмы, мы научились клеймить позором американский маккартизм, запреты на профессии, охоту за ведьмами, слезоточивый газ, дубинки, наручники и другие атрибуты «ненашего» общества, столкнулись с тем, что это все вдруг постучалось в двери наших домов.

Есть разные профессии в обществе — «выбирай на вкус». Есть такая профессия — Родину защищать! А есть — Родину насиловать, избивать, калечить, причиняя ей боль и невыносимые страдания, используя спецсредства, которые Родина ей и вручила. Даже боевое оружие дала, которое обещают использовать «гуманно»! Гуманно — это как: покалечить, чтобы остался жив, или наповал, чтобы не мучился?

Но есть профессия, которую когда-то выбрал и я — врач.

Для ее представителей кровь, травма, боль и страдания — руководство к действию, руководство к немедленному оказанию помощи, облегчению состояния. Врач, как говорят, на это «заточен». У врача эта реакция уже, если хотите, на генетическом уровне, воспитанная во врачебных династиях, на примере литературных героев, настоящих образах. Клятва Гиппократа для врача не пустые слова, а сочетание внутренней гуманистической культуры и действий. Не зарплата (размер которой вы хорошо знаете), а совершение данной врачу гуманитарной миссии в обществе — спасение от боли и страдания всех его представителей.

Сегодняшняя острая реакция медиков, направленная против насилия, понятна и объяснима. Препятствовать этой реакции любыми методами — это препятствовать развитию профессии, это фактически уничтожить ее.

Естественно, и в нашей среде не без урода. Самое дно профессионального извращения — доктор Менгеле из Освенцима — классика садистских наклонностей. Для таких «врачей» крики и стоны — небесная музыка, от которой он получает колоссальное удовольствие. Недаром такие экземпляры находят себе место в среде фашизма, бандитизма, морального уродства.

Не хочется верить, но есть кое-что из доморощенного.

Председатель Постоянной комиссии Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь по образованию, науке, культуре и социальному развитию, врач акушер-гинеколог Виктор Лискович заявляет о бойне 9–10 августа и говорит: «... следовало действовать более жестко». Читай: больнее, сильнее, кровавее. Это продукт отечественного производства со знаком «защитник народа».

Ненароком предложит усмирять кричащих грудничков, новорожденных граждан Беларуси каким-либо удушающим приемом или шлепком дубинки. Это врач, которого или разморило в теплом парламенте или генетика не та?!

За протестный выход будущих медиков на улицы уволили ректоров медвузов. Мотив — недостаток патриотизма у студентов. Собственно, о каком патриотизме идет речь? Любви к Родине или к тем, кто ею правит?

Врач делает свое дело — лечит людей и все!

Конечно, через какое-то время, возможно, применив определенные усилия в идеологической работе, можно получить продукт, не замечающий чужих страданий. Может, даже кафедры новые появятся, где будут изучать не лечение травм, кровоподтеков и переломов, а напротив, способов их создания, да чтобы побольнее и покровавее!

Выйдут такие продукты из учебных заведений, как это было когда-то в дружественном нам Китае, с красно-зелеными цитатниками и значками вождя на униформе и будут громить все подряд и не будет места личному мнению, не то что общественному протесту.

Только лечить кто будет?

Дежавю.

К сожалению, история никого ничему не учит!

**news.tut.by**

МІГРАЦЫЯ

# СКОЛЬКО БЕЛОРУСОВ УЕХАЛО ИЗ СТРАНЫ С НАЧАЛА ОСЕНИ

**Несмотря на закрытые из-за коронавируса границы, с начала осени в Польшу выехало около 10 тысяч белорусов, в Украину — 3 тысячи, в Литву и Латвию — не более 500. Такие цифры озвучил начальник Департамента по гражданству и миграции МВД Алексей Бегун, сообщает Sputnik. Если сравнить эти данные с данными Белстата о международной миграции, то получается, что за два неполных месяца года за границу уехало в несколько раз больше человек, чем за весь прошлый год.**

**«Ситуация не критичная и не наносит серьезного ущерба национальной безопасности»**

— Мы мониторим эту ситуацию, отслеживаем передвижение наших граждан через внешний контур, учитываем, что ряд государств предоставили для наших граждан режим определенных преференций, — рассказал Алексей Бегун.

По словам главы департамента, эта ситуация «не критичная и не наносит серьезного ущерба национальной безопасности».

— Страна не чувствует значительной утраты трудовых национальных ресурсов, — констатировал Алексей Бегун.

По его мнению, этот выезд не спровоцирован политическими событиями в стране.

— Может, определенные лица, которые ставили своей целью уже достаточно давно переехать на ПМЖ в другие страны, использовали эту ситуацию для того, чтобы обратиться в компетентные органы Литвы или Польши с ходатайством о предоставлении статуса беженца. И они тем самым очень часто создавали так называемую информационную картинку, чтобы подтвердить, что являются жертвами за свои политические взгляды на территории Республики Беларусь.

Также Алексей Бегун отметил, что миграционные тенденции будут видны по итогам квартала или даже шести месяцев, потому что во многих странах действуют карантинные ограничения, из-за которых может быть сложно вернуться обратно.

**Сколько белорусов раньше уезжало в эти страны**

На сайте Департамента по гражданству и миграции МВД есть данные по выезжающим за первые 9 месяцев года. По этим данным, в Польшу выехали 779 человек, в Литву — 1122 человека, в Латвию и Украину выехавших нет. Эти цифры заметно отличаются от данных за два месяца, озвученных главой Департамента по гражданству и миграции. Но дело в том, что в статистику МВД попадают только трудовые мигранты, которые выехали за границу «при содействии юридических лиц и индивидуальных предпринимателей, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление деятельности, связанной с трудоустройством за пределами Республики Беларусь». Соответственно, те, кто нашел работу самостоятельно или выехал за границу по любой другой причине, в этой статистике не учитываются.

По данным Белстата о количестве выбывших из Беларуси за 2019 год, в Польшу выехал 1751 человек, в Украину — 1890 человек, в Литву — 435 человек, в Латвию — 131 человек. Получается, за два месяца 2020-го в Польшу выехало в пять раз больше человек, чем за весь 2019-й, в Украину — почти в два раза больше, в Литву и Латвию в общей сумме — примерно столько же, сколько за весь прошлый год.

**https://finance.tut.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 30.10.2020 у 16.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.